Гродна
№ 13 (424),
26 ліпеня 2015

# Слова Жыцця



www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## УРАЧЫСТАСЦІ МАЦІ БОЖАЙ ТРАКЕЛЬСКАЙ




Галоўную адпуставую Імшу ўзначаліў біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка

**У дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Тракельскай, Каралевы сем'яў, адбыліся адпуставыя ўрачыстасці. З розных бакоў Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з-за мяжы ў санктуарый прыбылі пілігрымы. Усіх іх злучыла супольная малітва. Як адна сям'я, на каленях яны крочылі да Маці Божай і з вялікім даверам прасілі Яе, каб атуліла сваім мацярынскім плашчом.**

● працяг на с. 3




Падчас гамíліі кс. бп Юзаф пажадаў вернікам, каб супакой і радасць нанова пасяліліся ў кожнай супольнасці і кожным доме

## УРАЧЫСТАСЦЬ МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ У ГУДАГАЙСКІМ САНКТУАРЫІ

**У парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў мястэчку Гудагай, што на Гродзеншчыне, 19 ліпеня а 12-й гадзіне адбылася адпуставая святая Імша, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.**

● працяг на с. 3

### Каляндар падзей

*__4 жніўня__
ўспамін
св. Яна Марыі Віянэя,
заступніка святароў.*

*__5 жніўня__
ўспамін
Маці Божай Снежнай.
У Гродне ўспамін
Маці Божай
Кангрэгацкай
(Студэнцкай).*

*__6 жніўня__
свята
Перамянення Пана.*

### Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***3 жніўня***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці ёсць у Вашым аўтамабілі выява св. Хрыстафора?***

- *так*
- *не*
- *ёсць іншая выява*
- *не разумею, чаму менавіта св. Хрыстафор*
- *цяжка сказаць*

**выкажыся**

**"Марыя заўсёды вядзе нас да свайго Сына, Езуса, бо толькі ў Ім ёсць збаўленне" – папа Францішак**




### XVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 6, 1–15**

Езус адышоў на другі бок Галілейскага, або Тэберыядскага мора. Ішло за Ім мноства людзей, таму што бачылі цуды, якія Ён чыніў над хворымі. Езус узышоў на гару і сядзеў там са сваімі вучнямі. А набліжалася Пасха, юдэйскае свята. Калі Езус узняў вочы і ўбачыў, што мноства людзей ідзе да Яго, сказаў Філіпу: "Дзе нам купіць хлеба, каб накарміць іх?" А казаў гэта, выпрабоўваючы яго, бо сам ведаў, што збіраўся рабіць.

Філіп адказаў Яму: "Хлеба на дзвесце дынараў не хопіць, каб кожнаму дасталося хоць крыху". Адзін з вучняў Яговых, Андрэй, брат Сымона Пятра, кажа Яму: "Ёсць тут адзін хлопец, які мае пяць ячменных хлябоў і дзве рыбы, але што гэта для такога мноства?"

Езус сказаў: "Загадайце ім сесці". А было на тым месцы шмат травы. І селі людзі, якіх было каля пяці тысяч.

Езус узяў хлябы і, падзякаваўшы, раздаў тым, хто сядзеў; таксама і рыбы, колькі хто хацеў. А калі насыціліся, сказаў вучням сваім: "Збярыце кавалкі, што засталіся, каб нічога не змарнавалася". Сабралі і напоўнілі дванаццаць кашоў кавалкамі з пяці ячменных хлябоў, якія засталіся пасля тых, хто еў.

Калі ж людзі ўбачылі, які цуд учыніў Езус, казалі: "Ён сапраўды прарок, які мае прыйсці на свет". Калі Езус даведаўся, што хочуць прыйсці і схапіць Яго, каб зрабіць каралём, зноў адышоў на гару адзін.

## НЕ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ

Размнажэнне хлеба напаўняе аптымізмам: Езус неабыякавы да людскіх патрэб і можа задаволіць нашыя жаданні. З іншага боку, гэтая падзея выклікае сумныя думкі: накормленыя засярodзіліся выключна на поўным жалудку без зацікаўленасці глыбейшым сэнсам Хрыстовага знака. Сёння адбываецца падобнае. Мы чакаем, што Бог вырашыць нашыя зямныя праблемы. Нямногія задумаюцца над тым, што Езус хоча нам сказаць пра самога сябе.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

### XVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 6, 24–35**

Калі людзі ўбачылі, што тут няма ні Езуса, ні Яговых вучняў, селі ў чаўны і прыплылі ў Кафарнаум, шукаючы Езуса. Калі ж знайшлі Яго на другім беразе мора, сказалі Яму: "Раббі, калі Ты прыбыў сюды?". Езус адказаў ім: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: шукаеце Мяне не таму, што бачылі цуды, а таму, што з'елі хлеб і насыціліся. Клапаціцеся не пра ежу, якая гіне, але пра ежу, што застаецца на жыццё вечнае, якую дасць вам Сын Чалавечы, бо Яго пазначыў Бог Айцец". А яны сказалі Яму: "Што нам рабіць, каб выконваць справы Божыя?". Езус адказаў ім: "У тым справа Божая, каб вы верылі ў таго, каго Ён паслаў". Народ сказаў Езусу: "Які ж Ты зробіш цуд, каб мы ўбачылі і паверылі Табе? Што ўчыніш? Айцы нашыя елі манну ў пустыні, як напісана: Хлеб з неба даў ім есці". Езус адказаў ім: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: не Майсей даў вам хлеб з неба, але Айцец Мой дае вам сапраўдны хлеб з неба. Бо хлеб Божы ёсць той, які сыходзіць з неба і дае жыццё свету". Тады сказалі Яму: "Пане, давай нам заўсёды такі хлеб". Езус адказаў ім: "Я ёсць хлеб жыцця; хто да Мяне прыходзіць, не будзе галодны, і хто верыць у Мяне, ніколі не будзе прагнуць".

## КОЖНЫ МОЖА ПРЫЙСЦІ ДА ЕЗУСА

Сёння вучні задаюць Езусу асноўнае пытанне. Як жыць, каб выконваць справы Божыя? Хрыстос заахвочвае Апосталаў, каб яны моцна верылі ў Божага Сына. Езус, прыходзячы на зямлю, выконвае волю Айца, дае жыццё свету. Свет павінен у гэта паверыць і зразумець адвечную праўду збаўлення. Праз Хрыста, праз крыж кожны чалавек, які прыходзіць да Збаўцы, можа быць збаўлены.

У сённяшні час варта над гэтым задумацца. Варта зрабіць своеасаблівы рахунак сумлення, рахунак са свайго жыцця. Будучы пры Хрысце, мы будзем мець усё, што нам патрэбна для збаўлення нашай душы, для зразумення свайго паклікання на зямлі. Кожны з нас як жывая істота прагне, нястомна імкнецца да таго, што знаходзіцца па-за межамі нашага разумення, а ў канчатковым рахунку імкнецца да Бога, каб вызнаць, як св. Тэрэза Авільская: "Дастаткова толькі Бога".

*Кс. Павел Салабуда*

# Вера без учынкаў мёртвая

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

Загаловак майго чаргова разважання добра нам вядомы. Гэта фрагмент разважання Паслання святога Якуба: "Якая карысць, браты мае, калі нехта кажа, што мае веру, а ўчынкаў не мае?" (Як 2, 14). Мы добра разумеем сэнс гэтага пытання і стараемся штосьці змяніць у сваім рэлігійным жыцці, каб наша вера была жывой. Святы Якуб звяртае ўвагу на факт, што добрыя ўчынкі, згодныя з навучаннем Хрыста, з'яўляюцца абавязковай умовай для збаўлення.

Што такое вера? Веруючы чалавек адкажа, што вера – гэта жыццё, гэта ўвесь чалавек: са сваім жыццём, праблемамі, поспехамі, Божым блаславеннем і пакліканнем да жыцця з Богам. І хоць працягваецца перыяд канікул, і многія з нас прагнуць знайсці сабе месца для адпачынку, мы ўсведамляем, што адпачынку ад Бога няма. Чалавек, які жыве з верай, ніколі не стоміцца Богам. Прыкладам могуць паслужыць чарговыя ўрачыстасці, на якіх нас вельмі шмат, або звычайная нядзеля, падчас якой вялікая колькасць вернікаў збіраецца ў парафіяльных касцёлах сваіх гарадоў і вёсак.

Варта ў гэтым актыўным рэлігійным жыцці ў Беларусі ўспомніць таксама пра пілігрымкі. Пілігрымкі ў Будслаў і Тракелі, Навагрудак і Рось, Навумавічы і Вільню. Некаторыя ўжо адбыліся, і вялікая колькасць веруючых людзей прыняла ў іх удзел, а тыя, якія яшчэ наперадзе, бясспрэчна збяруць многіх з нас.

Ва ўрачыстасцях у Тракелях і Гудагаі ўдзельнічала мноства вернікаў рознага ўзросту. Кожны знайшоў сваё месца побач з Марыяй. Многія з нас у сваім мітуслівым жыцці знайшлі некалькі гадзін для Маці. Гледзячы на веру нашых людзей, можна безумоўна сказаць, што ў нашага народу яна жывая і поўная добрых учынкаў.

Няхай сапраўдны хрысціянін заўсёды памятае пра звычайныя і простыя добрыя ўчынкі. Таму што адной толькі веры не хопіць для збаўлення, неабходны яшчэ нашы добрыя ўчынкі, якія спрыяюць таму, што мы становімся лепшымі, што наша вера становіцца больш поўнай і дасканалай. Але і выключна ўчынкі нас не збавяць, бо яны з'яўляюцца неаддзельным дапаўненнем нашай веры. Менавіта такое і ёсць правільнае, поўнае і дасканалае развіццё нашай веры, веры нашага народу і Касцёла ў Беларусі. Чарговы ўказальнік, які скіроўвае нас да збаўлення.

**Таму варта і далей клапаціцца пра сваю веру, збіраць на зямлі добрыя ўчынкі і праслаўляць Хрыста, а святы Якуб нам падказвае: "Як цела мёртвае без душы, так і вера без учынкаў мёртвая" (Як 2, 26).**

ДЭКАНАТ Радунь

# Осава

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*



*Знешні выгляд святыні*

Касцёл у гонар св. Юрыя быў заснаваны тут у 1666 г. па фундацыі Казіміра Францкевіча, тагачаснага ўладальніка Осава, і ягонай жонкі Аляксандры. Новы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1732 г. на сродкі князя Юрыя Радзівіла.

Спачатку, верагодна, касцёл быў дзвюхвежавы, але ў XIX ст. вежы разабралі. Напрыканцы стагоддзя касцёл уяўляў сабою прамавугольную ў плане святыню з пяціграннай апсідай, накрытую двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над прэзбітэрыем. Галоўны фасад завяршаў трохвугольны франтон пад вялікім карункавым крыжам, у нішы франтона была ўсталявана фігура св. Юрыя. Справа ад касцёла асобна стаяла двух'ярусная (меншы чацвярык на большым), таксама драўляная званіца пад чатырохсхільным дахам. Комплекс быў абнесены высокай бутавай агароджай з аднапралётнай уваходнай брамай, цаглянай і атынкаванай.

З другой паловы XVIII ст. да Осаўскай парафіі адносілася капліца ў сядзібе Пагародна. Таксама калісьці дзейнічала і капліца ў в. Вайдакі.

Парафія разрасталася і ў пачатку XX ст. стары касцёл ужо не мог змясціць усіх парафіян. Таму, атрымаўшы дазвол на новую святыню, вернікі пад кіраўніцтвам свайго пробашча кс. Віктара Качаньскага пачалі будаваць новы, ужо каменны касцёл у неагатычным стылі. У 1910 г. будаўніцтва было скончана і касцёл асвяцілі пад гістарычным тытулам св. Юрыя.

Святыня пабудавана з жоўтай цэглы, трохнававая, аднавежавая, з пяціграннай апсідай і трансептам. Над галоўным фасадам узведзена васьміграння шатровая вежа-званіца, над алтаром – стромкая сігнатурка. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе перспектыўнага неагатычнага партала.



*Галоўны алтар*

Асабліва цікавы інтэр'ер святыні. Уся ўнутраная прастора, падзеленая на навы дзвюма апорамі і перакрытая крыжастымі скляпеннямі, размалявана дэкаратыўна-раслінным арнаментам у стылі мадэрн. Арыгінальна вырашана і асвятленне касцёла: гэтую ролю выконваюць не традыцыйныя жырандолі, а сучасныя кропкавыя свяцільнікі, што надае малітоўнай зале асаблівы ўтульны настрой. Акрамя таго, інтэр'ер касцёла ўпрыгожваюць сем алтароў: галоўны – Маці Божай Чанстахоўскай, бакавы ў левай капліцы (крыле трансепта) – св. Антонія, у правай – св. Юрыя, і яшчэ чатыры алтары ўсталяваны пры кожнай апоры – (па гадзіннікавай стрэлцы ад увахода) св. Ізідара, Маці Божай Шкаплернай, св. Юзафа і св. Роха. Прэзбітэрый перакрыты складанай сістэмай скляпенняў, раскрыты ў малітоўную залу велічнай спічастай аркай. Галоўны алтар, як і іншыя алтары святыні, зроблены з дрэва ў неагатычным стылі на пачатку XX ст., завершаны стромкімі пінаклямі. У алтары змешчаны абраз Маці Божай Чанстахоўскай, адзначаны вотамі. Паміж набажэнствамі яго засланяе абраз Маці Божай Анёльскай. Над нартэксам зроблены арганныя хоры, раскрытыя ў малітоўную залу невялікай стрэльчатай аркай.

Касцёльны ўчастак абнесены бутавай агароджай, уваход пазначаны невялікай аднапралётнай атынкаванай брамай.

"За польскім часам" колькасць вернікаў Осаўскай парафіі павялічылася да больш чым 4300 чалавек. Пагародненская капліца атрымала статус філіяльнага касцёла.

Дзейнічае касцёл св. Юрыя і сёння. Статус помніка архітэктуры святыні надалі адносна нядаўна. Ніжэй за касцёлам захаваўся мураваны будынак былой плябаніі, дзе ў савецкія часы была зроблена крама. Побач сёння пабудавана ўжо новая драўляная плябанія. У 1994 г. касцёл быў урачыста кансэкраваны гродзенскім біскупам Аляксандрам Кашкевічам.

# З Марыяй у дарозе навяртання

● працяг са с. 1

Ужо традыцыйна ўсіх пілігрымаў яшчэ па дарозе ў Тракелі вітаў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які блаславіў і дзякаваў за прыгожае сведчанне веры. У саміх Тракелях перад уваходам у санктуарый пілігрымаў сустракаў кусташ гэтага святога месца кс. Аляксандр Рудзевіч.

Найбольшай па колькасці ўдзельнікаў стала пешая пілігрымка з Гродна, якая прыйшла ў Тракелі ўжо ў 17-ты раз і налічвала больш за 370 чалавек. Таксама прыбылі пілігрымкі з Ашмянаў, Іўя, Навагрудка, Ваўкавыска і іншых мясцін.

## "Ратунак для душы – Божая любоў"

Урачыстасці ў санктуарыі Маці Божай у Тракелях пачаліся 10 ліпеня марыйным зваротам. Усіх, хто прыбыў у пешых пілігрымках (у цэлым каля 2 тысяч чалавек), у арганізаваных групах і прыватнымі транспартнымі сродкамі, прывітаў кс. бп Аляксандр Кашкевіч.

*"Вітаю ўсіх вас у доме Маці! Яна цешыцца сёння з вашай такой шматлікай прысутнасці, і Яна сёння прагне ўсім вам дапамагаць"*, – сказаў гродзенскі ардынарый.

У межах сёлетніх урачыстасцей у санктуарыі ў Тракелях прысутныя выслухалі канферэнцыю "Навяртанне ў кантэксце Фацімскага адкрыцця", з якой выступіў кс. Андрэй Роўба, дэкан лідскі і пробашч парафіі ў Вавёрцы.

У кантэксце Года навяртання, які перажывае Касцёл у Беларусі, святар нагадаў сабраным вакол палявога алтара пра тое, што кожны чалавек з'яўляецца грэшным і слабым, што кожны мае патрэбу ў Богу. *"Ратунак для душы – Божая любоў, адкрыццё на Божую ласку і міласэрнасць, на ўсё, што Бог чыніць для збаўлення чалавецтва"*, – дадаў святар.

Затым адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, якую праводзіла моладзь з парафіі Ліда-Фара. Падчас адарацыі прысутныя дзякавалі Богу за дар людзей, пакліканых да служэння ў Касцёле, за хрысціянскія сем'і, якія выхоўваюць у веры наступныя пакаленні.

## Імша ў Тракелях апоўначы: "Няхай цнота пакоры і згоды на волю Божую бачна прамянеюць у нашай штодзённасці"

Святую Імшу апоўначы ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Эўхарыстыю канцэлебравалі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец і шматлікія святары.

У гаміліі біскуп Аляксандр Яшэўскі сказаў: *"У гэтым годзе мы прыйшлі сюды, у Тракелі, каб прасіць Найсвяцейшую Панну Марыю быць нам апорай на дарозе нашага навяртання да Бога". "Мы хочам быць паспяховымі, каб намі захапляліся, каб толькі на нас звярталі ўвагу. Мы вельмі моцна клапоцімся пра тое, каб іншыя не раскрылі нашыя слабасці і абмежаванні,* – сказаў іерарх. – *Цнота пакоры патрабуе ад нас разумення, што зменяць людзей, усё чалавецтва, трэба пачынаць не ад іншых, а ад саміх сябе. Пакора таксама патрабуе ад нас умення прымаць не толькі тое, што нам прыемнае і даспадобы, але і ўсе цярпенні, цяжкасці, штодзённыя ўласныя крыж, бо яны дадзены для нашага дабра, для нашага збаўлення, для нашага перамянення".*

## Прэзентацыя ордэнаў і манаскіх кангрэгацый у Гродзенскай дыяцэзіі

У межах адпуставых урачыстасцей 11 ліпеня ў санктуарыі адбылася прэзентацыя манаскіх супольнасцей.

Кажучы аб сваім шляху паклікання, кансэкраваныя асобы прыгадалі ўдзельнікам урачыстасцей у Тракелях, што чалавек ідзе за Хрыстом, бо Ён паглядзеў на яго з любоўю. Кажучы пра сваё штодзённае служэнне Касцёлу, кансэкраваныя асобы заахвоцілі маладых людзей таксама мець адвагу, рашыцца на гэты крок – пайсці за Езусам. Яны адзначылі, што шлях, на які кліча Хрыстос, прыгожы, бо гэта адмова ад катэгорыі "мець" на карысць катэгорыі "быць". Праз прэзентацыю кансэкраваныя асобы заахвоцілі да малітвы аб новых пакліканнях да служэння ў Касцёле.



На ўрачыстасці ў санктуарый Маці Божай у Тракелях штогод прыбываюць тысячы вернікаў

## Новапасвечаныя святары падзякавалі за дар святарства

Падчас ранішняй св. Імшы новапрэзбітэры, якія ў апошнім годзе прынялі сакрамант святарства, дзякавалі Богу за дар паклікання. Таксама за 25 гадоў святарскага служэння дзякаваў кс. Ян Гавецкі, пробашч парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі.

Святую Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. *"Кожны святар вядзе ў імя Бога дыялог з чалавекам"*, – падкрэсліў біскуп. Іерарх пажадаў маладым святарам, якія толькі ўваходзяць у святарства, быць дарогай, праз якую іншыя людзі змогуць прыйсці да Хрыста.

## Вернікі атрымалі хатняе заданне – маліцца за сям'ю

Сёлетнія ўрачыстасці ў санктуарыі Маці Божай, Каралевы сем'яў, у Тракелях завяршыліся 11 ліпеня. Вернікі праходзілі пад дэвізам "З Марыяй у дарозе навяртання". Гэтыя словы прыгадвалі вернікам, што Касцёл у Беларусі перажывае Год навяртання і што навяртання патрабуе кожны чалавек: і малады, і сталы.

Галоўную адпуставую Імшу ўзначаліў біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка. У сваёй гаміліі іерарх адзначыў, што дзеля Маці Божай вернікі "адважыліся ісці ў пілігрымку, пераадольваючы стому, спякоту, адлегласць у дзясяткі і сотні кіламетраў".

Нагадваючы, што сёлета ў межах падрыхтоўкі да 100-годдзя Фацімскіх аб'яўленняў Касцёл у Беларусі прапануе да разважання тэму "Марыя – прытулак грэшнікаў", біскуп падкрэсліў: *"Марыя туліць да сябе тых, хто шукае паяднання з Богам і пакідае грэшны шлях свайго жыцця, робячы пастанову весці цнатлівае жыццё ад моманту спаткання з Ёю".*

*"Памятай пра Маці – прытулак грэшнікаў, калі цябе будзе ахопліваць сумненне па прычыне цяжкіх грахоў, калі шатан будзе спрабаваць уцягнуць цябе ў маладушнасць"*, – з гэтымі словамі біскуп звярнуўся да кожнага з вернікаў.

Іерарх пажадаў вернікам, каб і гэтая пілігрымка ў летнюю спякоту, "пілігрымка, спалучаная з адрачэннем", стала "сведчаннем любові да Божай Маці – прытулку грэшнікаў" і была "прыгожым і трывалым штрыхом у выкананні жыццёвай фігуры святасці".

Напрыканцы св. Імшы, якая была сапраўдным святам каталікоў Гродзеншчыны і ўсёй краіны, біскуп Аляксандр Кашкевіч яшчэ раз заахвоціў да асаблівай малітвы за сем'і Беларусі. Усім прысутным вернікам біскуп пакінуў хатняе заданне – маліцца за сем'і: загубленыя, якія перажываюць крызіс, члены якіх закрануты рознымі залежнасцямі, якія знаходзяцца ў небяспецы распаду. Таксама да заданняў, даручаных вернікам, іерарх дадаў малітву за моладзь, якая рыхтуецца да заснавання сям'і, каб у будаванні будучага шчасця яна брала прыклад са Святой Сям'і з Назарэта – узору для кожнай хрысціянскай сям'і.

Чарговыя ўрачыстасці ў Тракелях завяршыліся, вернікі развіталіся з Божай Маці і вярнуліся да сваіх сем'яў, у свае дамы, каб ствараць будучыню на хрысціянскіх каштоўнасцях разам з Богам, бо толькі тады, калі чалавек будзе жыць у гармоніі з Ім, будзе моцным фундамент нашага грамадства і кожнай сям'і.

**Паводле catholic.by**

# Урачыстасць Маці Божай Шкаплернай у гудагайскім санктуарыі



Урачыстасць у гонар Маці Божай Шкаплернай сабрала шматлікіх вернікаў, якія адчуваюць патрэбу спаткання з Маці

● працяг са с. 1

На пачатку ўрачыстасці пробашч парафіі а. Казімір Мараўскі OCD прывітаў пілігрымаў з Беларусі і з-за мяжы, якія прыбылі на адпуст.

У гаміліі біскуп Юзаф звярнуўся да вернікаў, кажучы: *"Пытанне цішыні турбуе чалавека ў XXI стагоддзі. Мы павінны адрозніваць мёртвую цішыню, якая прыносіць жах і трывогу чалавеку, ад цішыні правільнай, якая з'яўляецца прыгожай гармоніяй. Яна дадзена гэтаму свету Богам. Гэта мелодыя нашай зямлі, якую Бог упісаў у мелодыю чалавека, вызваленага з шуму свету, які кажа "цішыня і супакой". На самой справе чалавек атрымлівае гэты вялікі супакой ад Бога. На працягу тысячагоддзяў чалавек уцякаў ад шуму жыцця, імкнуўся да Божай цішыні. Менавіта ў такой цішыні, падчас гэтай чарадзейнай мелодыі прарокі і пустэльнікі ўзыходзілі на гару Кармель. У гэтай цішыні было нешта асаблівае, што давала чалавеку перажываць блізкасць Бога. Не было мёртвай цішыні. І сёння сэрцы людзей імкнуліся сюды, каб акунуцца ў цішыню гэтай зямлі, жывую цішыню. Каб дакрануцца да гэтага Божага свету. Бо мы па ім сумуем. І жадаем напаўняць сябе Богам".*

Іерарх заклікаў вернікаў у сваіх малітвах прыносіць да Бога справы цэлага свету, а асабліва маліцца за мір ва Украіне. Ён таксама нагадаў, што крыніцай сям'і з'яўляецца сакрамант, што сутнасць сям'і – сакрыментальнае жыццё.

*"Д'ябал пастаянна блукае і шукае, на каго можна напасці. Шкаплер – знак для яго, што ты пад плашчом духоўнай апекі Марыі. Я прысутнасць разам са шкаплерам з'яўляецца абаронай"*, – гаварыў біскуп.

На заканчэнне пастыр звярнуўся да прысутных са словамі: *"Кожны з вас вернецца да штодзённых абавязкаў з дадатковым умацаваннем. Бо душа і сэрца атрымалі тут Божую энергію і новыя сілы. Вы вернецеся, каб асвячаць іншых. Каб паядналіся сем'і, прабачылі суседзі і зразумелі дзеці. Нават самы вялікі грэшнік павінен пастаянна прысутнічаць у нашых малітвах, каб ён навярнуўся. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя дасць вам адчуць сэрцам гэтую цудоўную мелодыю прысутнасці Бога, гэтую духоўную цішыню, гэтую атмасферу міру і любові".*

Гудагайскі касцёл славіцца абразом Маці Божай Гудагайскай, культ якога звязаны са шкаплерным набажэнствам. 20 ліпеня 2014 г. падчас святкавання 250-годдзя з часу свайго асвячэння касцёл у Гудагаі быў аб'яўлены дыяцэзіяльным санктуарыем Маці Божай Шкаплернай Гродзенскай дыяцэзіі. У святыні знаходзіцца вядомы ласкамі абраз Маці Божай Гудагайскай, які быў каранаваны папскімі каронамі 15 ліпеня 2007 года.

**Паводле catholicnews.by**

Слова для жыцця

### Папа Францішак



*"Пан сам спашле дождж, і наша зямля прынясе плён", – так сцвярджае псалом (85 [84], 13). Мы запрошаны на святкаванне гэтай таямнічай камуніі паміж Богам і Яго Людам, паміж Богам і намі. Дождж з'яўляецца знакам Яго прысутнасці на зямлі, якую мы апрацоўваем сваімі рукамі. Гэта камунія, якая заўсёды прыносіць плён, якая заўсёды дае жыццё. Такі давер вынікае з веры, з ведаў, якія развлічаны на Яго ласку, якія заўсёды пераменяць і напояць нашу зямлю.*

*Гэта давер, якому мы вучымся, для якога выхоўваемся. Давер, які пачынаецца ва ўлонні супольнасці, у жыцці сям'і. Давер, які становіцца сведчаннем на тварах мноства людзей, што пабуджаюць нас пайсці за Езусам, стаць вучнямі Таго, хто не расчароўвае.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўлены падчас св. Імшы ў парку Ну Ігуасу*

### Кс. абп Клаўдыа Гуджэроці



*Маці Божая, якая трымае ў руках маленькага Збаўцу, трымае таксама кожнага са сваіх дзяцей, бо і мы маем удзел у Целе і Крыві Яе Сына. Паспрабуйце адчуць, што кожнага з вас нясе на руках Маці Божая і паслухайце, што Яна кажа вам. Яна кажа: "Беларускі народ, ты супольнасць вернікаў. Будзь адважным і май веру ў будучыню. Было шмат цяжкасцей у тваёй гісторыі, але працуй дзеля будучыні, намагайся, каб будучыня была лепшай". Кожнаму з нас Яна кажа: "Паспрабуй выйсці з абшару твайго страху, паспрабуй нарадзіцца, каб жыць без яго".*

*Фрагмент гаміліі, прамоўлены падчас урачыстасцей у Будславе*




◆ У горадзе Мантэрыя ў Калумбіі 15 ліпеня быў забіты святар Луіс Леон Перэйра. Забойства было здзейснена ў закрыстаі перад пачаткам святой Імшы, да якой ён рыхтаваўся. Злачынец пранік у касцёл з мэтай крадзяжу і расправіўся са святаром, які яго там застаў. Затым ён спрабаваў уцячы, але на вуліцы яго схапіў натоўп мясцовых жыхароў, які збіраліся ўчыніць над ім самасуд. Адбыліся сутычкі паміж імі і паліцыяй, што прыбыла на месца забойства. Больш за сто паліцэйскіх вымушаны былі ўмяшацца, каб вывесці забойцу.

◆ Рашучае "не" легалізацыі самазабойства пры ўрачэбным садзеянні сказалі каталіцкі і евангелічны Касцёлы Германіі. Яны выказалі сваю пазіцыю ў супольнай дэкларацыі ў сувязі з дыскусіяй у Бундэстагу па чатырох законапраектах аб канцы жыцця і магчымасці ўрэгулявання самазабойства пры ўрачэбным садзеянні. "Мы павінны зрабіць усё, каб у нашай краіне самазабойства не стала звычайным фактам", – заяўляюць кардынал Райнхардт Маркс і біскуп Хайнрых Бедфорд-Штром, якія падпісалі дэкларацыю. Адначасова з гэтым падкрэсліваецца неабходнасць развіцця сеткі хоспісаў і паліятыўнага догляду.

◆ Ужо 22 мільёны інтэрнэт-карыстальнікаў рэгулярна чытаюць кароткія запісы на профілі @Pontifex у Твітэры. Цікавасць да акаўнта Папы значна павялічылася падчас яго падарожжа ў Лацінскую Амерыку. Паездка шырока каментавалася ў сетцы. У той час штодзённая чытацкая аўдыторыя "твітаў" Пантыфіка складала 30 тысяч асоб.

◆ Мусульмане з канадскага горада Місісога ахвяравалі 5000 даляраў на аднаўленне мясцовага каталіцкага касцёла пасля нападу на яго вандалаў. На працягу аднаго тыдня на касцёл св. Кацярыны Сіенскай было здзейснена два напады. У адзін з вечароў у касцёл пранік чалавек, які разарваў Святое Пісанне, што знаходзілася там, раскідаў кнігі і разграміў храм. Праз некалькі дзён вандалы аблілі фарбай статую Хрыста, адбілі ў яе рукі і распісалі будынак школы, што знаходзілася побач. Урон склаў больш за 10000 даляраў.

*katolik.ru; Ватыканскае радыё*

**Кс. Павел Салабуда**

# ЗАПРАШАЕМ У ПІЛІГРЫМКУ!

## XIV ПІЛІГРЫМКА Ў РОСЬ





У Гродзенскай дыяцэзіі ў горадзе Рось, размешчаным прыкладна ў 75 км ад Гродна, знаходзіцца гістарычная святыня – санктуарый Езуса Журботнага. У яе галоўным алтары размешчана цудатворная 400-гадовая фігура Езуса Журботнага, якая прыцягвае да сябе шматлікіх пілігрымаў.

**XIV пешая пілігрымка з Гродна ў санктуарый Езуса Журботнага ў Росі па традыцыі выйдзе з гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі** *(Гродна-Паўднёвы, вул. Цэнтральная 26).*
**Маршрут пілігрымкі: Гродна – Квасоўка – Вялікія Эйсманты – Рэпля – Рось.**
**Святая Імша на распачацце адбудзецца 7 жніўня ў 7.00.**

**Заяўкі прымаюцца ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі або па тэлефонах:**
**(8029) 78-40-572, (8044) 46-06-140** ***(кс. Юрый Марціновіч);***
**(8033) 68-62-116, (8033) 68-62-116, (8029) 13-72-754** ***(Іаланта).***

**Арганізацыйная сустрэча для пілігрымаў адбудзецца 5 жніўня ў 20.00 у касцёле Гродна-Паўднёвы.**

### Праграма XIV пешай пілігрымкі Гродна – Рось:

**7 жніўня, пятніца:** ***Гродна-Паўднёвы – Вялікія Эйсманты***
07.00 – святая Імша на распачацце пілігрымкі ў касцёле Гродна-Паўднёвы;
08.05 – *Паўднёвы – 09.35 – Горніца (7 км);*
10.00 – *Горніца – 10.50 – Каўпакі (4 км);*
11.15 – *Каўпакі – 12.30 – Квасоўка (6,2 км);*
12.55 – *Квасоўка – 14.10 – Свіслач (5,5 км);*
14.10–15.10 – абед;
15.10 – *Свіслач – 16.20 – капліца ў Заневічах (5 км);*
16.45 – *капліца ў Заневічах – 17.40 – Станевічы (4,5 км);*
18.10 – *Станевічы – 19.00 – "пасаг" (4 км);*
19.20 – *"пасаг" – 20.10 – Вялікія Эйсманты (5 км). Начлег.*

**8 жніўня, субота:** ***Вялікія Эйсманты – Рось***
07.40 – ранішнія малітвы ў парафіяльным касцёле ў Вялікіх Эйсмантах (адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту);
08.10 – *Вялікія Эйсманты – 09.00 – лес (5 км);*
09.25 – *лес – 09.55 – сад (2 км);*
10.20 – *сад – 11.40 – Рэпля (5 км);*
11.40–12.40 – абед;
12.40 – *Рэпля – 13.45 – Дулеўцы (5 км);*
14.10 – *Дулеўцы – 15.25 – Роскае лясніцтва (5 км);*
15.50 – *Роскае лясніцтва – 17.15 – Рось (5 км);*
17.15 – уваход у санктуарый, адкрыццё фігуры Езуса Журботнага;
17.50 – падрыхтоўка да святой Імшы;
18.00 – святая Імша;
21.00 – распачацце чування. Выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Адарацыя. Працэсія са знічамі каля санктуарыя. Акт аддання ля фігуры Маці Божай Каралевы Супакою. Заканчэнне дня і начлег.

**9 жніўня, нядзеля:** ***Рось***
10.00 – урачыстая святая Імша на заканчэнне пілігрымкі.

**10 жніўня, панядзелак:** ***Гродна-Паўднёвы***
19.00 – святая Імша падзякі за XIV Пешую пілігрымку ў касцёле Гродна-Паўднёвы;
20.00 – супольная вячэра, падзяка ўсім пілігрымам і службам пілігрымкі.

## ПІЛІГРЫМКА Ў ВІЛЬНЮ



**XXIII Экуменічная пілігрымка ў санктуарый Маці Міласэрнасці ў Вільне пройдзе па маршруце Беласток – Гродна – Вільня.**

Праграма:
**15 жніўня** – *выхад з Беластока;*
**18 жніўня** – *прыход у Гродна. Сустрэча пілігрымаў адбудзецца ў пабернардынскім касцёле а 19-й гадзіне;*
**19 жніўня** – *а 7-й гадзіне раніцы для пілігрымаў будзе цэлебравацца св. Імша перад выхадам у далейшую дарогу. У гэты час будзе магчымасць далучыцца да пілігрымкі вернікам з Беларусі;*
**25 жніўня** – *заканчэнне пілігрымкі св. Імшой у Вострай Браме ў Вільні.*

***У Беларусь паломнікі вяртаюцца самастойна.***

У сувязі з тым, што пілігрымка будзе перасякаць мяжу і праходзіць па тэрыторыі Літвы (22–25 жніўня), паломнікам неабходна мець візу. Каб атрымаць аднаразовыя візы трэба сабраць неабходныя дакументы, зрабіць патрэбныя аплаты і ***да 29 ліпеня аднесці іх у дыяцэзіяльную курыю.*** Дакументы можна пакінуць ў сакратарыяце дыяцэзіяльнай курыі.

*Пытанні, звязаныя з удзелам у пілігрымцы і атрыманнем неабходнай інфармацыі, просім кіраваць да* ***кс. Паўла Безляповіча, адказнага за пілігрымаў з Гродзенскай дыяцэзіі падчас паломніцтва ў Вільню.*** *Тэлефон: (8029) 266-77-03 (МТС).*

## ПІЛІГРЫМКА НА МЕСЦА МУЧАНІЦТВА СЯСЦЁР НАЗАРЭТАНАК З НАВАГРУДКА



*Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч шчыра запрашае вернікаў у пілігрымку, адзначаючы, што "кожная пілігрымка, як рэкалекцыі ў дарозе, рыхтуе нас на прыняцце Божых дароў, без якіх цяжка ісці праз нашае жыццё".*

**VI пілігрымка на месца мучаніцтва блаславёных сясцёр назарэтанак Гродна – Шчучын – Навагрудак пройдзе з 25 па 31 ліпеня.**

**Пілігрымка пачнецца 25 ліпеня ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка) святой Імшой у 8.45.**
**31 ліпеня ў 17.00 адбудзецца Імша на месцы гібелі блаславёных назарэтанак у лесе.**
**Пілігрымка завершыцца 1 жніўня начным чуваннем і святой Імшой у 4.30 у касцёле Перамянення Пана ў Навагрудку.**
*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах:*
*(+37533) 620-34 41, (+37525) 629-62-66 – с. Таццяна, Навагрудак.*
*У момант выхаду газеты пілігрымы ўжо вырушаць з Гродна.*
*Запрашаем далучыцца да пілігрымкі.*

# Чаму св. Хрыстафор стаў заступнікам вадзіцеляў?

Пра жыццё св. Хрыстафора ў нас няма дакладных звестак. Хутчэй за ўсё, ён жыў у пачатку III стагоддзя і памёр мучаніцкай смерцю. Астатняя інфармацыя грунтуецца на вусных пераказах і легендах.

У легендзе гаворыцца, што бацькі далі яму імя Рэпробус, што азначае "Той, які выклікае агіду". Ён быў вельмі непрыгожым: высокі рост, магутнае цела і бясформенная галава, што нагадвала галаву сабакі. Ён таксама валодаў нечалавечай сілай. Можа таму ён вырашыў пайсці на службу да самага магутнага валадара. Спачатку гэта быў правіцель яго краіны. Але хутка Рэпробус пераканаўся, што кароль вельмі баіцца д'ябла, таму ён падаўся на службу да д'ябла. Упэўніўшыся, што д'ябал вельмі баіцца імя Хрыста, Рэпробус зацікавіўся: хто ж такі гэты Хрыстос, якога баіцца д'ябал. Гэта паспрыяла таму, што ён зацікавіўся Хрыстом, пазнаў Яго вучэнне і прыняў хрост. За пакуту ён вырашыў пасяліцца над Іарданам і пераносіць людзей праз раку на сваіх магутных плячах.

Аднойчы ноччу Рэпробус пачуў, што дзіця просіць перанесці яго на другі бераг. Узяўшы дзіця на плечы, пачаў яго несці. Дзіця станавілася ўсё цяжэйшым, і ў пэўны момант Рэпробус мог патануць. Але ён дабраўся да другога берага і спытаўся: "Хто Ты?". У адказ ён пачуў: "Я Езус, твой Збаўца. Несучы Мяне, ты нясеш увесь свет". На памяць аб гэтай падзеі Рэпробус атрымаў грэчаскае імя Хрыстафор, што азначае "Той, які нясе Хрыста". Таксама легенда гаворыць, што Пан Езус вярнуў Хрыстафору нармальны выгляд.

Іншая легенда расказвае, як Хрыстафор быў схоплены і кінуты ў турму сваім каралём, жорсткім пераследнікам хрысціян. Гэта адбывалася каля 250-га года, у час панавання імператара Дэцэя. Цяжка было прыгаварыць яго да пакут, бо салдаты баяліся Хрыстафора з-за яго незвычайнай сілы. Многія салдаты, бачачы стойкасць Хрыстафора ў пакутах, паверылі ў Хрыста. Іншыя навярнуліся, калі бачылі, як выпушчаныя ў яго напрамку стрэлы спыняюцца ў паветры або адбіваюцца ад яго цела. Хрыстафора цэлы дзень засыпалі стрэламі, якія, аднак, не забілі яго. Калі ён, абяздолены, урэшце ўпаў на зямлю, імператар загадаў сцяць яму галаву.

Некаторыя крыніцы падаюць, што Хрыстафор загінуў мучаніцкай смерцю падчас пераследу ў часы Дыяклецыяна.

У сярэднявечны св. Хрыстафор быў залічаны да кола 14-ці "Дапаможнікаў", гэта значыць да асаблівых заступнікаў. Апекаваўся падарожнымі, пілігрымамі, праваднікамі, плытагонамі, маракамі. Сёння яго лічаць заступнікам вадзіцеляў, руху і камунікацыі, а таксама шматлікіх звязаных з імі прафесій (у дадатку да пералічаных): возчыкаў, яхтсменаў і бегуноў, апекуном горных дарог, заступнікам шахцёраў, сталяроў, цесляроў, капялюшнікаў, фарбавальшчыкаў, пераплётчыкаў, скарбашукальнікаў, прадаўцоў агароднiны, садоўнікаў, апекуном крэпасцей і фартэцый, заступнікам дзяцей. Мы звяртаемся да яго ў выпадку неспадзяванай смерці, эпідэміі і чумы, небяспекі ад агню і вады, засухі, непагадзі і граду, у выпадку захворвання вачэй, зубнога болю і ран. З'яўляецца заступнікам Амерыкі і Вільні (яго постаць знаходзіцца на гербе гэтага горада), сядзіб і садоў, а таксама хрысціянскай моладзі. Ён таксама заступнік падчас смяротнай небяспекі.

Згодна з даўнімі павер'ямі, той, хто раніцай паглядзіць на абраз св. Хрыстафора, будзе ў бяспецы да самага вечара. Таму раней яго постаць малявалі пры ўваходзе ў касцёлы, на гарадскіх вежах, на ферэтронах і харугвах, а таксама на многіх камяніцах пры ажыўленых вуліцах – такія камяніцы ў сярэднявеччы называлі "хрыстафорамі".

*Паводле www.wrocanka.mojaparafia.org*

## МАЛІТВА ВАДЗІЦЕЛЯ

**Божа, дай мне ўпэўненую руку і пільнае вока, каб я нікому не прычыніў шкоды ў дарозе. Даўца жыцця, не дазволь, каб я стаў прычынаю смерці альбо калецтва для тых, каму Ты даў жыццё. Захавай, Пане, ад няшчасных выпадкаў тых, хто падарожнічае са мною. Навучы мяне карыстацца аўтамабілем для дабра маіх бліжніх і адвядзі ад мяне спакусу празмернай хуткасці. Учыні, каб хараство свету, створанага Табою, і радасць Тваёй ласкі заўсёды спадарожнічалі мне.**

*Амэн.*

# Паломніцтва на гродзенскую Галгофу



Пілігрымы з малітвай крочаць да месца, дзе загінулі жыхары Гродна і Ліпска



Падчас урачыстасці ў навумавіцкім лесе

**У суботу 18 ліпеня а 15-й гадзіне з парафіяльнага касцёла ў Адамавічах вырушыла першая ў гісторыі Гродзенскай дыяцэзіі пешая пілігрымка да месца мучаніцкай смерці жыхароў Гродна і Ліпска (сёння тэрыторыя Польшчы), якія 13 ліпеня 1943 года былі расстраляны гітлераўцамі на Форце № 2 каля Навумавічаў.**

Каб ушанаваць памяць ахвяр фашысцкай агрэсіі, у паломніцтва выйшла больш за сто вернікаў з усіх гродзенскіх парафій. На экуменічнай святой Імшы а 19-й гадзіне колькасць людзей, якія прыйшлі ўспомніць трагічныя падзеі, двойчы ўзрасла.

Звяртаючыся да гісторыі трагічных падзей, якія мелі месца 13 ліпеня 1943 года: у той дзень на Форце № 2 каля Навумавічаў гітлераўцы расстралялі групу людзей з 50-ці чалавек, сярод якіх былі як свецкія вернікі, так і святары. Прычынай масавага пакарання стала помста немцаў за забойства партызанамі нямецкага паліцэйскага. Да ліку ахвяр фашысцкай помсты сярод іншых належала бласлаўлёная Мар'яна Бярнацкая. Яна пацярпела мучаніцкую смерць, аддаючы жыццё за сваю нявестку, якая была цяжарнай.

Святую Імшу, якая праходзіла на месцы пакарання, узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Падчас гаміліі іерарх разважаў над сэнсам дадзенай трагедыі, падкрэсліваючы, што ахвяра гэтых людзей, якія аддалі жыццё за веру і бліжняга, паказвае, што "не адным хлебам жыве чалавек". *"Мы павінны памятаць, што нашыя браты і сёстры, якія больш за паўстагоддзя таму прынялі мучаніцкую смерць на гэтым самым месцы, не памерлі, паміраючы. Яны памерлі, каб жыць. Сваёй ахвярай гэтыя людзі абудзілі ў нас надзею на вечную будучыню. Месца трагічных падзей яны пераўтварылі ў бласлаўлёнае месца, дзе кожны можа нанова адкрываць таямніцу вечнага жыцця"*, – адзначыў біскуп Юзаф.

Іерарх таксама нагадаў прысутным, што яны маюць сваю ўласную нябесную заступніцу сямейнага жыцця – бласлаўлёную Мар'яну Бярнацкую, і заахвоціў давяраць ёй усе свае сямейныя клопаты і радасці.

На Імшы прысутнічала таксама дэлегацыя з Польшчы ў асобе мэра горада Ліпска Леха Ляміцкага, праўнука бласлаўлёнай Мар'яны Бярнацкай Станіслава і яе прапраўнучкі Дзіяны. Напрыканцы набажэнства спадар Станіслаў адзначыў, што нявестка, за якую бласлаўлёная Мар'яна аддала сваё жыццё, адышла ў жыццё вечнае толькі ў мінулым 2014 годзе, на 98-ым годзе свайго жыцця. "Гэта сведчыць аб тым, што ахвяра маёй прабабулі Мар'яны сапраўды не была дарэмнай", – сказаў нашчадак бласлаўлёнай.

На заканчэнне родныя бласлаўлёнай Мар'яны Бярнацкай усклалі вянок да помніка загінуўшым ад рук нямецкіх захопнікаў.

*Паводле grodnensis.by*





### Евангелізацыя на пляжы

***Некалькі дзясяткаў чалавек абвяшчаюць Добрую Навіну на пляжах і ў месцах шпацыру на польскім пабярэжжы Балтыйскага мора.***

*"Прыморская евангелізацыя" адбываецца ўжо ў сёмы раз. Удзельнікі акцыі на працягу цэлага дня знаходзяцца ў адной мясцовасці. У той час, калі частка групы застаецца на адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў мясцовым касцёле, астатнія выходзяць на пляжы і вуліцы са спевам, сведчаннямі, малітвай і запрашэннем на вячэрнюю сустрэчу ў святыні.*





### Італьянцы абараняюць сям'ю

***У сучасным свеце трэба гучна выступаць за правы сям'і і не дазваляць, каб яна паддалася новым культурным мадэлям, якія супярэчаць нашай традыцыі.***

*Так камітэт "Захаваймa нашых дзяцей", які ў чэрвені арганізаваў у Рыме дэманстрацыю ў абарону сям'і, дзе ўдзельнічала больш за мільён чалавек, заяўляе на верасень чарговы марш. Першае мерапрыемства праходзіла пад дэвізам "Стоп гендэр", а цяпер арганізатары хочуць сканцэнтравацца на абароне традыцыйнага сужэнства. Таму што восенню ў італьянскім парламенце будзе праводзіцца галасаванне па законапраекце аб легалізацыі аднаполых сужэнстваў з аднačасовым прызнаннем ім права ўсынаўляць дзяцей.*





### Месца хросту Езуса ўпісана ў спісак ЮНЕСКА

***Варта адзначыць, што гэта адбылося па ініцыятыве Іарданіі, большасць жыхароў якой вызнаюць іслам.***

*Бетанія, дзе згодна з Евангеллем паводле св. Яна Пан Езус прыняў хрост, па традыцыі знаходзіцца побач з палестынскім Ерыхонам, 40 км ад сталіцы Іарданіі – Амана.*

*Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА налічвае на сённяшні дзень больш за тысячу аб'ектаў, якія асаблівым чынам абараняюцца з-за іх унікальнай каштоўнасці для культуры ці прыроды.*

***Кінга Красіцкая***

## Назарэтанкі зладзілі рэкалекцыі для сем'яў

***Рэкалекцыі для сем'яў на тэму "Божае слова ў жыцці сям'і" праходзілі з 6 па 13 ліпеня ў кляштары сясцёр у Навагрудку.***

Рэкалекцыі праводзіў кс. Мікалай Ціхановіч. Канферэнцыі, святая Імша, малітва праслаўлення, размовы са святаром і сёстрамі спрыялі духоўнаму ўзрастанню ўдзельнікаў. Дарослыя мелі магчымасць асабістай сустрэчы з Божым словам праз медытацыю. Дзеці таксама ўдзельнічалі ў тэматычных занятках у розных узроставых групах.

На рэкалекцыі прыбылі сем'і са Смаргоні, Масквы, Гродна, Навагрудка, Ліды і Мінска. Напрыканцы рэкалекцый да Таварыства Святой Сям'і з Назарэта былі далучаны тры новыя члены.



Для сясцёр назарэтанак гэта вялікая радасць і ўдзячнасць Богу – пакліканне свецкіх людзей да жыцця харызмай Назарэта, якая заключаецца ў пашырэнні Божай любові ў сваім жыцці, у сваёй сям'і, а таксама сярод іншых сем'яў.

## У Слоніме прайшлі "Канікулы з Богам"

***З 5 па 9 ліпеня пры парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі сабралася моладзь, якая займаецца спортам. Арганізатарам мерапрыемства сталі душпастар спартсменаў кс. Артур Малафей, а таксама трэнерскі штаб футбольнага клуба "Слонім". Сярод удзельнікаў былі футбалісты, плаўцы, лёгкаатлеты, гандбалісты.***

Моладзь з Гродна, Ліды і Слоніма пачынала кожны дзень святой Імшой. Пасля праходзілі прафесійныя трэніроўкі. Адным з пунктаў праграмы для спартсменаў была экскурсія ў Жыровічы.



8 ліпеня адбыўся таварыскі матч паміж камандай моладзі "Душпастарства спартсменаў" і зборнай з Гродна. Вынік гульні – 6:2 на карысць "Душпастарства спартсменаў".

## Бп Юрый Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі ў Ваўкавыску

***18 ліпеня парафію святога Станіслава Косткі ў Ваўкавыску наведаў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Іерарх узначаліў у парафіі святую Імшу і ўдзяліў сакрамант канфірмацыі.***

Кс. бп Юрый Касабуцкі, прывітаўшы прысутных, адзначыў, што адпаведна падрыхтаваныя ксяндзом Алегам вернікі прымуць Святога Духа і стануць рыцарамі Хрыста ў Касцёле, беручы на сябе абавязак з большай адвагай і ахвярнасцю ўдзельнічаць ў жыцці Касцёла і адказваць за яго развіццё і місію ў сучасным свеце.

Удзяліўшы сакрамант канфірмацыі



вернікам рознага ўзросту (падлеткам, дарослым і сталым людзям), іерарх пажадаў, каб яны выйшлі з гэтага месца адноўленымі і каб у веры былі падобнымі да Апосталаў.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію ў Осаве

***19 ліпеня ў парафіі св. Юрыя іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі больш за 60 вернікам.***

Біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліў нядзельную святую Імшу і прамовіў гамілію, у якой адзначыў, што задача кожнага хрысціяніна – так распараджацца сваім жыццём, каб не даць сябе паглынуць празмернай актыўнасці. "Той, хто перастае маліцца, хадзіць у касцёл, прыступаць да сакрамантаў, бо аддае сябе поўнасцю працы і таму, што знешняе, у канцы страчвае сам сябе", – сказаў гродзенскі ардынарый.

Іерарх пажадаў прымаючым сакрамант канфірмацыі, каб Бог быў у іх жыцці заўсёды на першым месцы. Аса-



бліва біскуп прасіў аб захаванні веры, якую трэба памножыць ва ўласным жыцці, каб быць вернымі, адважнымі, нязломнымі сведкамі Хрыста.

## Адбылася св. Імша ў 30-ы дзень пасля смерці кс. Яна Занеўскага

***Імшу ў касцёле ў Квасоўцы ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Удзел у ёй таксама прынялі святары дэканата Гродна-Захад, святары з сям'і Занеўскіх – кс. Юзаф Занеўскі SDB і кс. Марэк Занеўскі, а таксама парафіяне і знаёмыя кс. Яна.***

"Чалавечае жыццё перад Панам вымяраецца не гадамі, а ўчынкамі, поўнымі любові. Немагчыма абараніцца ад смерці ці хваробы праз слёзы смутку – толькі праз радасць дапамагаць іншым даведацца пра Пана. А гэтага ў святарскім жыцці ксяндза Яна было шмат, дастаткова, каб стаць перад Панам без страху", – сказаў у гаміліі бп



Юзаф.

На заканчэнне літургіі новы пробашч парафіі кс. Тадэвуш Крыштопік падзякаваў усім за малітву і салідарнасць.

## Адпачынак у Ішчална

***"Канікулы з Богам" прайшлі 13–17 ліпеня ў вёсцы Ішчална.***

Для дзяцей і моладзі з парафіі святых Максімільяна Кольбэ і біскупа Станіслава ў Каробчыцах, а таксама з парафіі святога апостала Якуба ў Цудзенішках гэта былі пяць дзён радасці, вяселля, прыгод, малітвы. Святая Імша і сустрэча з Богам на катэхезе займалі цэнтральнае месца на адпачынку. Дзень складаўся з інтэлектуальных гульняў і ўдзелу ў вікторынах. Таксама падчас "Канікул з Богам" моладзь глядзела павучальныя фільмы, прымала ўдзел у спартыўных спаборніцтвах.

## АНОНСЫ

### ПРАГРАМА ЧУВАННЯ ПЕРАД УРАЧЫСТАСЦЮ МАЦІ БОЖАЙ КАНГРЭГАЦКАЙ У X ГАДАВІНУ КАРАНАЦЫІ

**4.08–5.08.2015**

**19.00** – святая Імша
**20.00** – аднаўленне адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Ружанец з разважаннем Радасных таямніц *(парафія Беззаганнага Зачацця НПМ – Паўднёвы)*
**21.00** – Зварот. Час, каб выказаць асабістыя просьбы і інтэнцыі *(Кола адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту)*
**22.00** – Ружанец з разважаннем Балесных таямніц *(парафія Адшукання Святога Крыжа – пабернардынская)*
**23.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(малітоўная група МБ Кангрэгацкай)*
**24.00 –** святая Імша
**01.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(Акадэмічнае душпастарства)*
**02.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля – Дзевятоўка)*
**03.00** – Гадзіна міласэрнасці *(парафія Божай Міласэрнасці – Вішнявец)*
**04.00** – Ружанец з разважаннем Хвалебных таямніц *(парафія св. Юзафа – Сухамбаева)*
**05.00** – Гадзінкі да НПМ
**06.00** – Ружанец з разважаннем Таямніц святла *(парафія МБ Анёльскай, францішканская)*

**5.08.2015**

**07.00** – святая Імша – пры алтары МБ Кангрэгацкай
**08.00** – святая Імша
**09.00** – святая Імша
**10.00** – аднаўленне адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту *(парафія МБ Міласэрнасці – Аўгустовак)*
**11.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(Кола адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту)*
**12.00** – святая Імша
**13.00** – магчымасць прыватнай адарацыі
**15.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці *(ксяндзы катэдральнай парафіі)*
**16.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(малітоўная група св. Юзафа)*
**17.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(малітоўная група Апостальства дапамогі чыстцовым душам)*
**17.30** – святая Імша
**18.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту *(Кола адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту)*
**18.30** – набажэнства да МБ Кангрэгацкай

**19.00 – адпуставая святая Імша**

**Ксёндз пробашч Ян Кучынскі сардэчна запрашае ўсіх жыхароў Гродна і ваколіц.**

## ЗАПРАШАЕМ

**Парафія св. Францішка Ксаверыя ў Гродне
і парафія св. Максімільяна Кольбэ і св. б-па Станіслава ў Каробчыцах
запрашаюць у пілігрымку,
якая адбудзецца з 17 па 20 верасня бягучага года.**

**Маршрут: Гродна – Каліш – гара св. Ганны – Вроцлаў – Чанстахова – Гродна.**

У праграме:
- наведванне санктуарыя св. Юзафа і св. Імша;
- наведванне санктуарыя св. Ганны, начлег і пасілкі, св. Імша;
- наведванне Вроцлава і вроцлаўскай катэдры;
- Чанстахова: зварот, пасілкі, начлег, св. Імша, наведванне Яснай Гары.

***Кошт: 105 еўра.***

***Кантактныя тэлефоны: (80152) 53-37-22, (8029) 583-07-02, (8029) 887-10-24.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці возьмеце Вы ў гэтым годзе ўдзел у пешых пілігрымках?***




*Летні перыяд – гэта час пешых пілігрымак. Чарговае апытанне датычылася менавіта тэмы пешых пілігрымак. Большасць рэспандэнтаў заявіла, што прыме ўдзел у пешай пілігрымцы ў гэтым годзе. Таксама вялікая колькасць людзей адказала, што на ўдзел у пілігрымках ім не хапае часу. Ёсць і тыя, хто баіцца ўпершыню ісці ў пілігрымку.*

***Вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Я кожны год чакаю летняга перыяду, каб пайсці ў пешую пілігрымку ў Тракелі. Гэта ўжо мая васемнаццатая пілігрымка і кожны год я бачу вялікую колькасць маладых людзей. Ёсць таксама і старэйшыя, якія прысвячаюць свой час на пілігрымку. Я бачу іх намаганні і пакуты, самаадданасць і радасць. Можа, трохі менш маладых людзей стала сёння хадзіць у пешыя пілігрымкі, але тыя, хто адважыўся, заўсёды будуць у выйгрышы. Кожны пілігрым атрымлівае ад Бога тыя сілы і блаславенне, якія неабходны яму для далейшага жыццёвага шляху. Тых, хто яшчэ не адважыўся, заахвочваю рызыкнуць для Хрыста ў наступным годзе. Тыя ж, хто не мае часу на пілігрымку, няхай задумаюцца, як шмат гэтага часу яны ўжо страцілі. Заахвочваю кожнага вырушыць у пілігрымку.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**27 ліпеня 1932 г. –** кс. Антоній Аудыцкі, *проб. Заневічы;*
**31 ліпеня 1942 г. –** кс. Юзаф Кучыньскі, *проб. Усялюб;*
**31 ліпеня 1942 г. –** кс. Міхал Далецкі, *проб. Навагрудак;*
**2 жніўня 1989 г. –** кс. Рышард Вербель, *проб. Рось;*
**6 жніўня 1978 г. –** Павел VI, *Папа;*
**9 жніўня 2002 г. –** кс. канонік Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

**Адным з распаўсюджаных элементаў сучаснай культуры з'яўляецца вера ў астралогію. Большасць газет, тэлеканалаў і радыёстанцый абавязкова пакідаюць у сваім штодзённым раскладзе месца на тое, каб пазнаёміць аўдыторыю з "парадамі зорак". Часта нават ад ахрышчаных людзей можна пачуць, што "ў гараскопах няма нічога кепскага". Здараецца, што астралогію змешваюць з хрысціянствам і кажуць, што раз Бог стварыў зоркі, значыць Ён надзяліў іх уладай уплываць на паводзіны і лёс чалавека. Аднак Касцёл заўсёды рашуча асуджаў і працягвае асуджаць гараскопы. Чаму?**

# Чаму Касцёл асуджае гараскопы?



Па-першае, трэба адзначыць, што гараскопы, якія належаць да сферы астралогіі, не маюць нічога супольнага з навукай і навуковымі метадамі. Навукай з'яўляецца астраномія. Яна вывучае палажэнне, рух, структуру, паходжанне і развіццё нябесных цел і створаных імі сістэм. Астранамічная абсерваторыя ёсць нават у Ватыкане. У сваю чаргу астралогія – гэта "група прадказальных практык", якія прэтэндуюць на вывучэнне ўплыву нябесных цел на чалавека, вызначэнне рыс яго характару, рашэнняў і ўчынкаў, а таксама гістарычных падзей. Яна зарадзілася ў старажытнай Вавілоніі, а адтуль распаўсюдзілася ў Персію, Індыю, Кітай, Грэцыю і Рым. Астралогія звязана з язычніцкім фаталізмам – верай у тое, што нябесныя стварэнні ў стане вырашаць за чалавека яго ўласны лёс.

Трэба адзначыць, што Касцёл асуджаў астралогію з самага пачатку свайго існавання. Таледскі Сабор пастанавіў: "калі нехта думае, што можна верыць астралогіі, таму будзе анафема". Сабор казаў пра распаўсюджаную ў тыя часы ментальнасць, паводле якой крыніцай чалавечых учынкаў лічыліся зоркі, а ў канечным рахунку – Бог. Такім чынам адмаўлялася свабода чалавека. Св. Аўгустын пісаў з гэтай нагоды: "Астролагі прымушаюць нас паверыць у тое, што на небе знаходзіцца непазбежная прычына граху – будзь то Венера, Сатурн ці Марс, якія прымусілі нас зрабіць тое ці іншае, – каб апраўдаць чалавека (...) і абвінаваціць Таго, хто стварыў і трымае неба і зоркі".

Св. Аўгустын таксама казаў: "Трэба прызнаць, што калі астролагі кажуць праўду, то гэта адбываецца пад акультным уплывам, якому падвяргаюцца чалавечыя душы, не асэнсоўваючы гэтага. І паколькі гэта адбываецца з мэтай падману людзей, то дзеянне гэта паходзіць ад нячыстых духаў і спакусіцеляў, якім дазволена мець некаторыя веды аб зямных рэчах. Вось чаму добры хрысціянін павінен пазбягаць астролагаў і ўсіх, хто прыбягае да мастацтва прадбачання, асабліва калі яны прадказваюць праўду, каб не спакусілі душу праз кантакты са злымі і згоду з імі".

Трэба адзначыць, што сапраўды нябесныя целы, асабліва Месяц, маюць пэўны ўплыў на прыроду (дастаткова падумаць аб тым, наколькі важныя фазы Месяца для земляробаў, калі яны збіраюцца на жніво ці пераліваюць віно). Нябесныя целы разам з іншымі метэаралагічнымі фактарамі могуць уплываць на настрой чалавека. Але яны, паводле св. Тамаша з Аквіну, "не могуць прама ўплываць на розум і волю". "Чалавек валодае здольнасцю суджэння і разважання аб тым, што можа зрабіць, і гэта тычыцца як выкарыстання рэчаў, так і таго, падтрымліваць ці адмаўляцца ад унутраных жарсцяў. Гэта было б бескарысным, калі б наша воля залежала ад зорак і не была пад нашай уладай. Такім чынам, зоркі не могуць быць прычынай рашэнняў нашай волі", – падкрэсліваў Аквінат.

Астралогія, якая прэтэндуе на навуковасць, на самой справе не здольна стварыць індывідуальны гараскоп для кожнага асобнага чалавека. Стан зорак, для тых, хто нарадзіўся ў прыблізна адзін і той жа час, супадае. Атрымліваецца, што для гэтых людзей гараскоп, а значыць іх лёс, таксама з'яўляюцца аднолькавымі? Дзясяткі людзей валодаюць тым жа гараскопам, што Напалеон, Гётэ і Гандзі, але нельга сказаць, што ўсе яны валодалі адным лёсам і характарам.

Гараскоп – гэта адна з самых папулярных форм астралогіі. Для многіх гэта не што іншае, як гульня ці мода. Для іншых – жыццёвы компас. На жаль, яны прымаюць свае рашэнні ў залежнасці ад чытання знакаў задыяка.

Часцей за ўсё гараскопамі захапляюцца людзі далёкія ад Касцёла, не веруючыя ў Бога і не практыкуючыя якой-небудзь рэлігіі. Менавіта аб іх пісаў св. Павел: "Называючы сябе мудрымі, яны сталі неразумнымі" (Рым 1, 22).

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла асуджае астралогію, падкрэсліваючы, што яна супярэчыць веры ў абсалютнае панаванне Бога над нашым жыццём. У сувязі з гэтым Касцёл заклікае "адкінуць любыя формы варажбы", не практыкаваць выклікання памерлых і іншых метадаў, якія нібыта "адкрываюць" будучыню. "Зварот да гараскопаў, астралогіі, хірамантыі, тлумачэння знакаў і лёсаў, феномена прадбачання, зварот да медыумаў – хаваюць за сабой жаданне атрымаць уладу над часам, над гісторыяй і, у канчатковым рахунку, над чалавекам, а таксама імкненне зрабіць блізкімі сабе нейкія акультныя сілы", – гаворыцца ў Катэхізісе.

Адначасова адзначаецца, што "Бог можа адкрыць будучыню сваім прарокам ці другім святым. Тым не менш, справядлівыя хрысціянскія паводзіны заключаюцца ў тым, каб з даверам аддаваць сябе ў рукі Провіду ў тым, што тычыцца будучыні, і адмовіцца ад усялякай нездаровай цікаўнасці з гэтай нагоды".

Той факт, што часам прадказанні спаўняюцца, не азначае, што выкарыстаны метад сам па сабе з'яўляецца добрым. Св. Павел пісаў, што сатана можа апранучца ў анёла святла. Карыстацца паслугай астролагаў, ведаючы, што Бог і Касцёл гэта асуджаюць, азначае давяраць сваё жыццё іншым сілам, якія не паходзяць ад Бога.

*Ватыканскае радыё*




Radio Vaticana

***Калі католік заключае шлюб у ЗАГСе, ці можа ён потым развесціся і браць шлюб у касцёле з другой? Ці не супярэчыць гэта сцвярджэнню, што любы шлюб, нават грамадзянскі, з'яўляецца сапраўдным?***

*Грамадзянскі шлюб, заключаны ў ЗАГСе або ў іншай публічнай форме паміж двума няхрышчанымі, з'яўляецца сапраўдным і дзейсным шлюбам, таму што шлюб – гэта натуральны інстытут чалавечага жыцця. Але калі ахрышчаны чалавек уступае ў шлюб толькі ў ЗАГСе, не здзяйсняючы касцёльнага сакраманту сужэнства, то яго шлюб несапраўдны. Такім чынам, ён мае права разарваць гэты саюз і стварыць новы шлюб "у Госпадзе", які з'яўляецца сакрамантам. Але і ў гэтым выпадку існуе абавязак справядлівасці ў адносінах да папярэдняй грамадзянскай жонкі і агульных дзяцей.*

***Ватыканскае радыё***

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# Беларускія парафіі паказалі цудоўныя вынікі на міжнароднай парафіядзе

У Варшаве прайшла 27-я Міжнародная парафіяда дзяцей і моладзі. У гэтым годзе мерапрыемства сабрала паўтары тысячы ўдзельнікаў з усёй Еўропы. З Беларусі прыехалі прадстаўнікі 20-ці парафій, найбольш шматлікімі з якіх былі вернікі з Гродзеншчыны. У першы дзень парафіяды адбылася эстафета бегуноў, якая была прысвечана памяці святога Яна Паўла II. Пераможцам эстафеты стала гродзенская парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці (Аўгустовак). А ў апошні дзень спаборніцтваў парафія Гродна-Аўгустовак заняла 2 месца ў турніры па футболе (катэгорыя гімназія). Таксама беларуская моладзь заняла ганаровыя месцы падчас спаборніцтваў у іншых відах спорту і ў конкурсе рэлігійных ведаў і выяўленчага мастацтва.










# Кім быць лепш?

– Скажы мне, Анёл, чаму хлопцам быць лепш?
– Як гэта: лепш? Што ты хочаш сказаць, Зося?
– Дырэктар сказала некалькі непрыемных слоў нашаму класу, бо тое, што мы зрабілі, было недарэчна. Але чаму яна сказала, што хлопцаў яна яшчэ разумее, але брыдка, каб так сябе паводзілі дзяўчынкі?
– Ну бо брыдка. Гэта было неразумна, калі ўвесь ваш клас адразу са стадыёна ўваліўся ў струмені ледзяной вады, што палівала газон. А потым вы поўнасцю мокрыя пабеглі ў гардэроб. Добра, што было цёпла і ніхто не захварэў. А я ж казаў табе, каб ты не прымала ў гэтым удзелу.
– Казаў, прабач, што я не паслухалася цябе, але калі ўсе нешта робяць, цяжка супраціўляцца.
– Але ў супрацьстаянні дрэннаму трэба трэніравацца з маладосці. Так практыкуецца цнота мужнасці.
– Мужнасці? Але гэта хлопцы павінны быць мужнымі, таму гэта яны павінны былі атрымаць большы наганяй.
– Ты маеш рацыю, Зося, што мужчыны павінны быць мужнымі, а жанчыны – жаноцкімі. Але хлопцы з маленства трэніруюць сваю адвагу і мужнасць менавіта падчас розных, часам дастаткова шалёных забаў, бо гэта ў іх прыродзе. Таму дырэктар сказала, што разумее іх. Яны рыхтуюцца да ролі адважных дарослых, якія будуць абараняць свае сем'і, а калі будзе неабходна, то і сваю краіну. Гэта ж мужчыны ідуць у войска.
– То дзяўчынкі не могуць быць адважнымі?
– Могуць, канешне, і нават павінны. Але трошкі па-іншаму. Забавы, у якія гуляюць дзяўчынкі, рыхтуюць іх да ролі клапатлівых мам. Ты, Зося, любіш гуляць у лялькі, абдымаць шчанят, гладзіць коцікаў. Па сваёй прыродзе дзяўчынкі больш клапатлівыя і пяшчотныя, бо гэтыя рысы дапамагаюць ім пазней апекавацца над маленькім дзіцяткам. І гэта не выключае таго, каб жанчыны былі адважнымі, але па сваёй прыродзе яны менш схільныя да такіх шалёных забаў.
– То я ўжо і не ведаю, кім быць лепш…
– Нікім не лепш, бо кожны створаны Богам і пакліканы да чагосьці асаблівага. Паглядзі на сваіх бацькоў. Да мамы ты звяртаешся з аднымі справамі, да таты – з іншымі.
– Згодна. Па лесе вечарам мне больш падабаецца хадзіць з татам, але па блузкі ў магазін – з мамай. А яшчэ тата выкідвае павукоў, калі мы з мамай пішчым. Ён вельмі адважны. Затое мама пячэ вельмі смачныя пірагі, а я ёй дапамагаю.
– Бо твае бацькі цудоўна дапаўняюць адно аднаго.
– Але Франка з 3 "Б" увогуле не баіцца павукоў, а тата Сцёпкі мае кандытарскую і таксама ўмее пячы выдатныя пірагі. Гэта значыць, што яна не жаноцкая, а ён не мужны?
– Франка вельмі жаноцкая, бо яна настолькі клапатлівая, што нават павукоў любіць, што рэдкасць сярод дзяўчынак і жанчын. А тата Сцёпкі мужны, бо ён добры муж і тата, які клапоціцца пра сваю сям'ю. Няважна, пячэ ён хлеб, торты ці рамантуе машыны, бо кожны мае свае здольнасці і любімыя справы.
– Але ж не ўсе маюць сем'і. У манахінь і ксяндзоў іх няма. Гэта значыць, што ксёндз не можа быць мужным, а сястра – жаноцкай?
– Мужнасць (а нават адвага) ксяндза праяўляецца ў адважным абвяшчэнні Евангелля. Манаскія сёстры дзякуючы сваёй жаноцкасці выконваюць розныя важныя заданні. Напрыклад, навучаюць рэлігіі або апекуюцца дзецьмі ў дзіцячых дамах ці ў грамадскіх цэнтрах. І ксяндзы, і сёстры смела служаць Пану Богу таксама ў далёкіх краінах на місіях.
– Гэта значыць, што адрозненні паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі служаць для таго, каб дапамагчы нам выконваць свае заданні, калі мы будзем дарослымі?
– Менавіта так.
– То я ўсцешана, што я дзяўчынка, але быць хлопцам таксама добра.
– Я рады, Зося, што ты так думаеш.



***Беата Камарніцкая***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні.
Мы доўга чакалі гэтай гадзіны,
Урэшце настаў Ваш Дзень нараджэння.
Мы сэрцы свае Вам хочам адкрыць
І найлепшыя віншаванні зляжыць.
Жывіце ў радасці і шчасці,
Не знайце смутку і турбот,
Няхай усё зло Вас абмінае,
І добрае ў жыцці спрые.

*Парафіяне з Жырмунаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу з нагоды Імянін прагнем скласці мноства гарачых пажаданняў і падзякаваць за клопат, усмешку і ўсё дабро, якое мы атрымліваем. Мы просім за Вас, Ксёндз Чэслаў, звяртаючыся да Бога словамі: "Ойча Нябесны, дай Твайму пастару праз заступніцтва св. Яна Віянэя сэрца падобнае на сэрца Твайго Сына Езуса Хрыста". У гэты асаблівы дзень, дзень Вашых Імянін, жадаем Вам шчасця, якое выцякае з Божай абранасці, шчодрых Божых ласкаў, даверу і надзеі ў Пану. Жадаем Вам несці Добрую Навіну, пашыраць радасць, надзею і любоў, каб Вы былі знакам прысутнасці любячага Бога сярод Яго люду. Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас зычлівасцю і дабрынёй, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае дары. Няхай Вашыя намаганні барацьбы са штодзённасцю акрыляюць Вас і дазваляюць адчуваць прыгажосць і глыбіню жыцця.

*Парафіяне з Росі*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Будзьце святаром паводле сэрца Езуса. Будзьце мудрым і святым. За тое, што абвяшчаеце людзям Божую навуку, што ў Яго імя нам прабачаеце, што ўдзяляеце нам Яго Цела, няхай Хрыстос прытуліць Вас з любові, як Яна, да свайго сэрца. А мы падтрымаем Вас у малітве. Няхай Вашае жыццё будзе згодна з думкамі і пачуццямі Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а пра астатняе Ён сам паклапоціцца.

*З дарам малітвы парафіяне з Росі*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько прагнем скласці сардэчныя пажаданні з нагоды Імянін. Жадаем, каб усё Тваё жыццё было напоўнена святлом і любоўю. Няхай Збаўца вядзе Цябе па прыгожай, хоць і нялёгкай дарозе паклікання. Жадаем, каб кожны дзень Ты нанова захапляўся жыццём, любоўю, паўсюднай і цярплівай, прыязнай, незнішчальнай і ціхай, а таксама ўсміхаўся сабе і свету. Жыві так, каб кожны чарговы дзень быў цудоўным і непаўторным, напаўняй кожную хвіліну, каб потым успамінаць іх з радасцю. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Тваёй святарскай паслугі, Езус няхай заўсёды будзе Тваім Сябрам, а Марыя прытуляе Цябе да свайго сэрца.

*З дарам малітвы ўдзячныя за ўсё сябры*

Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Леўчыку з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Ваша вера будзе як гарчычнае зярнятка, у Вашым сэрцы няхай заўсёды жыве любоў, якой вучыў Хрыстос, а ў душы ніколі не гасне надзея. Жадаем Вам стойкасці ў святарскай паслузе, душэўнага супакою і ўзрастання ў святасці. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды трымае Вас за руку і вядзе прамой Божай сцежкай.

*Са шчырай малітвай вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў святарскай паслузе, добразычлівых людзей побач і як мага больш радасных хвілін. Няхай Бог Вас блаславяе і асцерагае, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці заўсёды будзе для Вас падтрымкай і прыкладам.

*З малітвай парафіяне з Путрышкаў*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Велівісу з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою і стойкасці. Няхай добры Бог адорвае Вас сваім бласлаўеннем, Святы Дух падтрымлівае сваімі дарамі, а Маці Божая нястомна чувае над Вамі і вядзе за руку праз нялёгкі жыццёвы шлях.

*З дарам малітвы парафіяне з Путрышкаў*

Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, непахіснай веры, нязгаснай надзеі і трывалай любові. Няхай Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай.

*З дарам малітвы члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міхалішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Гуляю з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Няхай Бог умацоўвае Вас сваімі ласкамі, а Марыя падтрымлівае сваёй любоўю і апекай.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

Паважанаму Ксяндзу Вінцэнту Лісоўскаму з нагоды Імянін жадаем мноства радасці, моцнага здароўя, добразычлівых людзей побач, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Марыі Панны. Няхай св. Заступнік будзе Вам падтрымкай і прыкладам у веры.

*З дарам малітвы члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: здароўя, шчасця, поспехаў і радасці. Няхай добры Бог абсыпае Вас сваімі ласкамі, Святы Дух адорвае дарамі, а Найсвяцейшая Маці будзе падтрымкай на святарскім шляху.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Адэльска*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю з нагоды Імянін жадаем усіх Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Хрыстос заўсёды будзе для Вас прыкладам на такім нялёгкім шляху паклікання, а Марыя падтрымлівае сваёй любоўю і набліжае да святасці.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько з нагоды Імянін жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а таксама сваім жыццём і прыкладам давайце сведчанне аб Яго любові і штодзённай прысутнасці. Няхай Бог дапамагае Вам у гэтым сваімі ласкамі і дарамі Святога Духа, а Найсвяцейшая Маці няхай клапоціцца пра Вас, каб Вы не сышлі з дарогі свайго паклікання.

*З дарам малітвы члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Мастоў*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: здароўя, сілы, надзеі, жыццёвай мудрасці, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай і дароў Святога Духа. Няхай кожны пераражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастарскай працы. Дзякуем за навуку, якую Вы так шчыра абвяшчаеце пры святым алтары. Шчасці Божа!

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з касц. св. Роха ў Грандзічах*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, радасці, аптымізму, надзеі і апекі св. Заступніка. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна апекуецца. У гэты асаблівы дзень мы дзякуем Богу за Вашае жыццё, за адданую службу людзям, добрае сэрца і любоў да нас. Шчасці Божа!

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з касц. св. Роха ў Грандзічах*

Дарагой Сястры Ганне з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай усемагутны Бог ахіне Вас сваёй міласэрнасцю і дабрынёй, адорыць супакоем і моцным здароўем. Маці Божая і св. Заступніца няхай абараняюць ад усялякіх нягод і нястомна трымаюць у сваёй апецы. Жадаем таксама здзяйснення мар і добразычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з касц. Нараджэння НПМ у Трабах*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю з нагоды абрання дзеканам Іўеўскага дэканата, а таксама дня Імянін перасылаем букет шчырых пажаданняў. Ад усяго сэрца жадаем, каб цяжкасць змагання са штодзённасцю акрыляла Вас і дапамагала разгле-дзець прыгажосць і глыбіню сённяшняга складанага жыцця. Няхай Маці Божая ахінае Вас няспыннай апекай і супакоем у сэрцы, а міласэрны Бог узнагародзіць любоўю і святлом, каб Ваш жыццёвы святарскі шлях быў шчаслівым і блаславёным, а кожны дзень – ясным, цёплым і радасным. Жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, стойкасці, сіл і поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям. Няхай Святы Дух умацуе душу і цела, а праца прыносіць шчодры плён. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за шчырую малітву і адданую працу на карысць нашай парафіі і дэканата.

*Удзячныя парафіяне з касц. Нараджэння НПМ у Трабах*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, сілы і цярплівасці на гэтай нялёгкай дарозе, на якую паклікаў Вас Пан Бог. Крочце па ёй мужна і верна, поўныя Божай мудрасці і святога запалу. Вы аддаеце нам усё: свае маладыя гады, здароўе, здольнасці, сэрца, каб паяднаць і наблізіць нас да Бога. Шчыра дзякуем Вам за гэта. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуліць Вас да свайго мацярынскага сэрца, Езус спашле сваё бласлаўленне, а наша малітва дадасць патрэбныя сілы.

*Са шчырай малітвай парафіяне з Раготна*

Паважанаму Айцу Эдуарду Пяцельчыцу з нагоды 30-годдзя ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў шчырай паслузе Богу і людзям, а таксама апекі Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Няхай усмешка заўсёды госціць на Тваім твары, а побач будуць добразычлівыя людзі.

*Мама і блізкія родныя*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, а таксама зычлівых людзей побач. Мы ўдзячны Вам за чулае сэрца, клопат пра парафіян і святыню. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай кожны дзень прыносіць Вам шчасце, у кожнай хвіліне штодзённасці заключаецца дабро і радасць, а ў сэрцы заўсёды жывуць вера і любоў.

*З дарам малітвы Парафіяльная рада*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4216; тыраж 6600; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная